Cena 60 gr.
Цана 60 гр.

# Ніва

NIWA
Organ Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Орган
ГП Беларускага
грамадска культурнага гаварыства

№ 51 (147) БЕЛАСТОК, 21 СНЕЖНЯ 1958 года ГОД III

# Святкаванне слаўнай гадавіны



*На здымку: Прэзідыум урачыстай акадэміі ў Беластоку. Адкрывае урачыстасць першы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч.*

Уся грамадскасць нашай краіны ўрачыста адзначае 40-ую гадавіну паўстання Камуністычнай Партыі Польшчы. На Беласточчыне, дзе па сённяшні дзень вельмі жывыя традыцыі дзеяння КПП і КПЗБ, святкаванне гэтай гадавіны мела асабліва ўрачысты характар. 12 і 13 снежня г. г. на ўрачыстасці 40-ой гадавіны ў Беластоку прысутнічаў член палітбюро ЦК ПАРП, Старшыня Дзяржаўнай Рады ПНР таварыш Аляксандр Завадзкі.

Сам Беласток у гэтыя дні меў урачысты, святочны выгляд. Вуліцы ўбраны дзяржаўнымі і рабочымі сцягамі. На гмахах вывешаны партрэты дзеячоў КПП і дзеячоў сусветнага рабочага руху.

Дзень 12 снежня быў асаблівым днём у жыцці рабочых фастаўскага камбіната ля Беластока — яго наведаў тав. Завадзкі. Аглядаючы камбінат, ён у непасрэдных гутарках з тэкстыльшчыкамі цікавіўся іх жыццём, працай, дасягненнямі і заработкамі.

У другой палавіне гэтага ж дня вуліцы Беластока запоўніліся натоўпамі жыхароў горада. Калоны рабочых і служачых са сцягамі і лозунгамі накіроўваюцца на вуліцу Сянкевіча. Тут, каля месца, дзе ў 1918 годзе стаяў дом, у якім змяшчалася Рада Рабочых дэлегатаў, мае адбыцца мітынг з удзелам тав Аляксандра Завадзкага.

На месцы, дзе некалі стаяў гістарычны домік, сёння вырас новы квартал жыллёвых дамоў. У сцяну аднаго з іх у памяць знамянальнай даты 1918 года ўмуравана манументальная дошка. Ля дома, дзе ўмуравана дошка, шэрагам становяцца старыя ветэраны рабочага руху, члены КПП і КПЗБ на Беласточчыне. Каля іх ганаровыя варты з партыйнымі сцягамі.

У суправаджэнні членаў бюро КВ ПАРП і членаў Прэзідыума ВРН, а таксама прадстаўнікоў палітычных і маладзёжных арганізацый на мітынг прыбывае тав. Аляксандр Завадзкі. Разам з імі прыбывае дэлегацыя Гродзенскага абкома Камуністычнай партыі Беларусі, на чале з сакратаром абкома КПБ тав. Станіславам Пілатовічам. Прыбываючых вітае гром доўга не змаўкаючых апладысментаў.

Мітынг распачынае кароткай прамовай першы сакратар КВ ПАРП тав. А. Лашэвіч. Вітаючы дарагіх гасцей, ён запрашае таварыша Завадзкага адкрыць манументальную дошку. Тав. А. Завадзкі найперш звяртаецца да працоўных Беластока з кароткай прамовай. Потым наступае ўрачыстая хвіліна. Пад гукі Інтэрнацыянала таварыш Аляксандр Завадзкі адхіляе заслону. З пад яе паказваюцца выразаныя на белым мармуры залатымі літарамі словы: «На гэтым месцы стаяў дом, у якім у час нямецкай акупацыі ў 1918 годзе мела сваю сядзібу першая Рада Рабочых Дэлегатаў».

Вечарам у Беластоцкім тэатры ім. А. Вянгеркі адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 40-годдзю ўтварэння КПП. Зала тэатра запоўнена да апошняга месца. У прэзідыуме акадэміі займаюць месца побач з таварышам Завадзкім дэлегацыя з Гродна, партыйныя і грамадскія дзеячы Беласточчыны і старыя ветэраны рабочага руху, члены КПП і КПЗБ.

Пасля адкрыцця акадэміі таварышам Лашэвічам на трыбуну ўваходзіць тав. А. Завадзкі. Яго прамову, (якую ў скарачэнні змяшчаем на стар. 2), прысутныя часта перарываюць гарачымі воплескамі.

Пасля таварыша А. Завадзкага выступае сакратар Гродзенскага абкома КПБ тав. С. Пілатовіч. Ён гаворыць аб супольнай барацьбе польскіх і беларускіх камуністаў у гады санацыйнага ўладарніцтва і пасляваенным супрацоўніцтве. Выступленне тав. Пілатовіча было таксама ўспрынята надзвычай сардэчна.

У мастацкай частцы акадэміі выступілі артысты Беластоцкага тэатра. Праграму сваю яны прысвяцілі дзейнасці КПП.

Пасля заканчэння акадэміі ў Доме Партыі адбылася сустрэча партыйнага актыву Беласточчыны з А. Завадзкім і старымі дзеячамі КПП і КПЗБ. На сустрэчы прысутнічалі таксама госці з Гродна. Сустрэча праходзіла ў вельмі сардэчнай і цёплай атмасферы.

(вб)


*На здымку: Аляксандр Завадзкі выступае на мітынгу ў Беластоку Побач, з права, сакратар Гродзенскага абкома, тав. Пілатовіч і сакратар Карэліцкага райкома, тав. Жалезняковіч.*

## Дэкарацыя камуністычных дзеячоў дзяржаўнымі ўзнагародамі

12 снежня г. г. ў Доме Партыі ў Беластоку ў сувязі з 40-годдзем КПП адбылося ўрачыстае ўручэнне высокіх дзяржаўных узнагарод старым ветэранам рабочага руху на Беласточчыне, членам КПП і КПЗБ. Уручаў узнагароды член палітбюро ЦК ПЗПР, Старшыня Дзяржаўнай Рады ПНР Аляксандр Завадзкі. За дзейнасць у рэвалюцыйным руху ўказам Дзяржаўнай Рады ўзнагародзілі:

Івана Астроўскага, дзеяча КПЗБ — Камандорскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Якуба Базылюка, дзеяча КПЗБ — Камандорскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Кастуся Крыштафа, дзеяча КПЗБ — Камандорскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Яфіма Гіжэўскага, дзеяча КПЗБ — Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Аляксея Рашчэнка, дзеяча ВКП(б) і КПЗБ — Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Аляксандра Грэся, дзеяча КПЗБ — Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Ліду Белецкую, дзеячку КПЗБ — Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Зосю Вырвас. дзеячку КПП — Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы; Яна Мізэрэк, дзеяча КПП — Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы і Антона Капроўскага, члена Камуністычнай Партыі Францыі і дзеяча КПЗБ — Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы

Усім чытачам, якія святкуюць Каляды па-новаму стылю жадаем весела правесці святы.

РЭДАКЦЫЯ

## Будуюць школу

Заклік таварыша Уладзіслава Гамулкі — 1000 школ на 1000-годдзе Польскай дзяржавы знайшло жывы водклік сярод нашай грамадскасці. Жыхары вёскі Любешчы ў Бельскім павеце грамадскім чынам прыступілі да пабудовы будынка, у якім будзе школа, клуб і бібліятэка.

У гэтай вялізнай для вёскі будове, магчыма, дапаможа Павятовы Камітэт будовы школ.

